*Інфармацыйны бюлетэнь*

# БАРМІЦА

www.barmica.org красавік 2005 г. barmica@tut.by бясплатна

## ДАПАМОЖАМ СПРАВАЙ!

**26 красавіка – дзень Чарнобыльскай трагедыі. Ужо 19 год. Гэта нічога, - скажуць некаторыя, - даўно было, усе амаль і забыліся б пра гэты дзень, калі б пра гэта кожны год не нагадвалі па тэлебачаньні, радыё альбо ў газэтах. Так, наш рэгіён гэтая бяда фактычна не закранула (хоць вы ж ведаеце, што ўсё адносна – хто можа гарантаваць, якія прадукты мы спажываем і г.д.).**

Дата сьціраецца з памяці, застаецца адно змрочны цень гэтае катастрофы дзесьці ў падсьвядомасьці, ірацыянальны страх, які праяўляецца ў тым, што, напрыклад, маладыя спэцыялісты як вагню баяцца разьмеркаваньня "ў зону". Але ў гэтай "зоне" таксама існуюць гарады і вёскі, у якіх жывуць такія ж самыя людзі, як і мы ўсе – людзі зь іх штодзённымі патрэбамі: працаваць, зарабляць, годна жыць у прыстойных умовах, вучыць дзетак на належным узроўні. Ну так, мы чулі пра ільготы для "чарнобыльцаў". Але насамрэч, шмат што там зна ходзіцца ў такім занядбаным стане, асабліва па вёсках! Прынамсі, калі параўнаць колькасьць кніг у школьных бібліятэках - нашых і, да прыкладу, Хойніцкіх ці Брагінскіх, то розьніца адразу робіцца відавочнаю. А гэта ж дзеці, якім увесь час цікава дазнавацца штосьці новае, адкрываць для сябе сусьвет, асабліва ў наш век інфармацыйных тэхналёгіяў і звышхуткасных глябальных працэсаў. Так, мя ня можам патрабаваць забесьпячэньне ўсіх тых школаў сучасным кампутаровым абсталяваньнем. Аднак жа, мінімальнае мы зрабіць можам!

Напрыклад, прыняць удзел у акцыі "Дапаможам Справай!", прымеркаваную да даты Чарнобыльскай трагедыі. Мы запрашаем усіх неабыякавых людзей далучыцца да гэтае добрае справы. У кожнай хаце, найверагодней, сабралася дастатковая колькасьць кніг, якія можна бясперашкодна аддаць на дабрачынную акцыю. Мы гатовыя прыехаць і забраць іх. Усе кнігі трапяць у бібліятэкі Брагінскага і Хойніцкага раёнаў Гомельскай вобласьці напярэдадні жалобнай даты.

Нават найменьшае ахвяраваньне заўсёды каштоўнае для тых, каму гэта насамрэч патрэбна.

Дык зьвяртайцеся!

**Кантактныя тэлефоны у Глыбокім: 6169629 ці 7137145**



## "Барміца" выступае з ініцыятывай

**Няма сумневу, што толькі аб'яднаўшы намаганні можна дасягнуць выніку. Толькі разам, у коле аднадумцаў чалавек адчувае сябе асобай.**

Пад час сустрэчы прадстаўнікоў недзяржаўных арганізацыяў Глыбоччыны і Докшыччыны абмяркоўвалася не толькі сітуацыя з абраннем адзінага кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах 2006 году, але і праблемы мясцовых недзяржаўных арганізацыяў. Сярод ініцыятыў, якія былі агучаныя пад час сустрэчы ў Глыбокім, 8 красавіка, – прапанова праводзіць рэгулярныя імпрэзы па найбольш актуальных пытаннях грамадскага жыцця. Вынесеныя прапановы стварыць у Глыбокім клубы па інтарэсах, прыцягваць як мага больш моладзі да удзелу у такіх клубах. Сярод найбліжэйшых планаў грамадзянскай ініцыятывы "Рэсурсовы цэнтар "Барміца" - клуб аматараў беларускай музыкі і суполка па вывучэнню ангельскай мовы. Ствараецца бібліятэка літаратуры па праблемах грамадскай супольнасці на Беларусі, праваабарончай, краязнаўчай тэматыкі. Асноўная мэта такіх клубаў – атрымаць магчымасць найбольш поўна зрэалізаваць прыхільнасці маладых людзей, пашырыць кола сяброў, карысна праводзіць вольны час.

Апроч гэтага штомесяц "Барміца" арганізуе цікавыя сустрэчы, інфармацыя аб якіх будзе размешчаная на сайце грамадзянскай ініцыятывы **www.barmica.org/**. Бліжэйшая сустрэча будзе прасвечаная развіццю агратурызму ў нашым рэгіёне. Усіх зацікаўленых просім звяртатаца па электроннай пошце: ***barmica@tut.by*** ці па тэл.: **7129893**

# Бывшая управляющая делами до сих не в тюрьме

**Бывшая управляющая делами президента Беларуси Галина Журавкова, приговоренная 8 февраля Верховным судом к четырем годам лишения свободы, по-прежнему находится дома. Об этом 13 апреля пишет «Народная воля».**

В интервью газете Г.Журавкова объясняет свое местонахождение плохим состоянием здоровья. «Я никуда не скрываюсь, состояние здоровья на самом деле - хуже некуда. 7 февраля мне сделали операцию... После операции я практически не могу сидеть - мне нужно или ходить, или лежать», - рассказала экс-управляющая делами президента.

Г.Журавкова также сообщила, что под предстоящую амнистию, приуроченную к 60-летию победы над фашизмом, она, скорее всего, не попадет.

Бывшая чиновница утверждает, что не собирается искать убежища за пределами Беларуси: «У меня ничего нет, ни копейки денег, мой муж в тюрьме. Куда мне уезжать?»

Г.Журавкова по-прежнему не согласна с вынесенным ей обвинительным приговором. «Меня подставили. Я 26 лет честно работала, никто обо мне слова плохого не скажет», - заявляет она.

Напомним, что Г.Журавкова признана виновной по статье 210, часть 4 Уголовного кодекса (хищение путем злоупотребления служебными полномочиями, совершенное организованной группой либо в особо крупном размере). В результате ее деятельности государству был нанесен ущерб в размере более 3 млн. долларов США.

# На Віцебшчыне ствараецца рух фалькенаў

**Апошнім часам ва Ўсходняй Эўропе адбываецца станаўленьне фалькенаўскіх арганізацый. Першыя крокі ў гэтым напрамку робяцца і ў Беларусі. Напрыклад, у Віцебску нядаўна ўзьнікла суполка фалькенаў.**

Фалькены (па-нямецку "сокалы") – гэта сетка нацыянальных няўрадавых арганізацый, што працуюць зь дзецьмі ды падлеткамі. Яны ажыцьцяўляюць разнастайныя адукацыйныя праекты, ладзяць летнікі і вандроўкі, праводзяць канцэрты дый іншыя мерапрыемствы дзеля ўсебаковага разьвіцьця й самарэалізацыі падрастаючага пакаленьня. "У пляне ідэалёгіі "сокалы" арыентуюцца на міжнародны рабочы рух, ідэі свабоды, роўнасьці, салідарнасьці й аховы навакольнага асяродзьдзя", – гаворыць Сяргей Бярозка, кіраўнік ініцыятывы па стварэньні факельнаўскага руху на Віцебшчыне.

Фалькены фармальна не зьвязаныя з сацыял-дэмакратычнымі ці лейбарысцкімі партыямі, але тым ня менш актыўна ўдзельнічаюць у палітычных акцыях, займаюцца палітадукацыяй.

"Сокалы" розных краін аб'яднаныя ў Міжнародны рух фалькенаў – Сацыялістычную адукацыйную сетку (IFM-SEI), які ажыцьцяўляе шэраг праектаў пры падтрымцы разнастайных фондаў, Рады Эўропы й Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Таксама і ў нашай краіне цягам апошніх пяці гадоў праводзяцца розныя мерапрыемствы і праграмы для дзяцей і падлеткаў у межах фалькенаўскага руху, якія арганізоўваюцца прадстаўнікамі сацыял-дэмакратычнай моладзі "Маладая грамада". Але толькі сёлета беларускія фалькены пачалі аб'ядноўвацца ў нацыянальную сетку. Узімку яны зладзілі свой першы арганізацыйны сход.

Актывізацыя беларускіх фалькенаў прывяла да стварэньня іхнай суполкі ў Віцебску. "У нас пакуль што 15 сябраў, – распавядае сп. Бярозка. – Мы ўдзельнічалі ў арганізацыі і правядзеньні Дня Волі. Але гэта толькі пачатак. У нашых плянах – актыўная асьветніцкая дзейнасьць. У прыватнасьці, зараз мы рыхтуемся да стварэньня гістарычнага дыскусійнага клюба. Наша мэтавая група – падлеткі ад 14 да 16 гадоў".

# Изменены ставки подоходного налога

**Министерство по налогам и сборам Беларуси изменило ставки подоходного налога в цифровом изложении. Данное решение содержится в постановлении Министерства по налогам и сборам Республики Беларусь № 45 «О внесении изменений в приказ Государственного налогового комитета Республики Беларусь от 23 марта 1999 г.№ 46».**

В частности, если размер облагаемого совокупного годового дохода физического лица составляет до 6 млн. 30 тыс. рублей, подоходный налог начисляется по ставке 9%;

от 6 млн. 30 тыс. 1 рубля до 15 млн. 75 тыс. рублей — 542 700 рублей + 15% с суммы, превышающей 6 млн. 30 тыс. рублей;

от 15 мл. 75 тыс. 1 рубля до 21 млн. 105 тыс. рублей — 1 899 450 рублей + 20% с суммы, превышающей 15 млн. 75 тыс. рублей;

от 21 млн. 105 тыс. 1 рубля до 27 млн. 135 тыс. рублей — 3 105 450 рублей + 25% с суммы, превышающей 21 млн. 105 тыс. рублей;

от 27 млн. 135 тыс. 1 рубля и выше — 4 612 950 рублей + 30% с суммы, превышающей 27 млн. 135 тыс. рублей.

По этим ставкам рассчитываются суммы подоходного налога, подлежащего исчислению, начиная с 1 апреля 2005 года.

Как пояснили БЕЛТА в министерстве, основанием для внесения изменений в Разъяснение о ставках подоходного налога и порядке его исчисления стало принятие правительством Беларуси постановления от 28 марта 2005 г. №330 «Об установлении размеров тарифной ставки первого разряда для оплаты труда работников организаций, финансируемых из бюджета и пользующихся государственными дотациями и базовой величины". Напомним, что в соответствии с данным документом с 1 апреля 2005 года установлена базовая величина в размере 25,5 тыс. рублей. При этом среднемесячная базовая величина составила 25,125 тыс. рублей. Исходя из этой величины были рассчитаны ставки подоходного налога в цифровом изложении, то есть по каждому диапазону определен размер облагаемого дохода и суммы подоходного налога.

# США критикуют Кубу, Беларусь и Китай

**США внесли в Комиссию ООН по правам человека резолюцию, в которой вновь подвергли критике ситуацию с правами человека на Кубе.**

Вашингтон призвал продлить мандат представительницы ООН по правам человека Кристин Шане с тем, чтобы она продолжала собирать сведения и давать оценку положению дел в этой области на Кубе.

В докладе, который К.Шане представила в комиссию в марте с.г., освобождение в 2004г. 18 кубинских политзаключенных расценивается как позитивный шаг. Однако, как указала эксперт, он не свидетельствует о прекращении репрессий, поскольку немало политических заключенных все еще остаются в тюрьмах.

Вашингтон также осудил случаи нарушения прав человека в Белоруссии, где, как заявляют американские власти, имеют место исчезновения людей и суммарные казни (приводимые в исполнение без справедливого суда или на основании быстрого и неудовлетворительного административного процесса) политических оппонентов действующей власти. Свою оценку ситуации в Белоруссии США дали в отдельно представленной резолюции. Она была подготовлена при участии Евросоюза, передает АР.

Помимо этого США упрекнули власти Китая в непринятии должных мер для защиты посольства Японии во время недавних антияпонских демонстраций. С критикой в адрес официального Пекина выступил государственный департамент США. «Китай должен принимать меры по недопущению насилия, направленного против иностранных миссий в Пекине», - заявил официальный представитель американского внешнеполитического ведомства Ричард Баучер. «Весьма прискорбно, что насилие имело место и не было взято под контроль», - цитирует АР слова пресс-секретаря.

Напомним, в последние дни по Китаю прокатилась волна антияпонских демонстраций. Тысячи людей вышли на улицы Пекина, Ганьчжоу и других китайских городов, чтобы выразить свой протест в связи с новой редакцией японских учебников по истории, из которых были исключены эпизоды, свидетельствующие о зверствах японцев во время Второй мировой войны. Протестующие сжигали японские флаги и забрасывали японское посольство камнями и бутылками. Демонстранты также протестовали против включения Японии в число постоянных членов Совета Безопасности ООН. Несколько японских граждан были избиты.

***Источник: Vlasti.net***

# Дзень аховы здароўя

**7 красавіка – усясьветны Дзень аховы здароўя. Пра здароўе варта думаць не тады, калі захварэеш, але ў беларусаў атрымліваецца інакш...**

Сьведчаньнем агульнага стану здароўя можа быць такая лічба: узровень шпіталізацыі дасягнуў унікальна высокае адзнакі – ледзьве не 30%. Прэзыдэнцкая прэсавая служба падкрэсьліла: пры захаваньні такой тэндэнцыі "ў хуткім часе давялося б шпіталізаваць больш, чым трэцюю частку насельніцтва". Тым часам як у большасьці разьвітых краінаў узровень і сярэдняя працягласьць шпіталізацыі ў разьліку на колькасьць насельніцтва ў 2-3 разы ніжэйшая, чым у Беларусі.

У большасьці краін сьвету практыкуецца мэдычнае страхаваньне насельніцтва. Пра гэта ішлі размовы і ў Беларусі, прыводзіліся аргумэнты "за" і "супраць"... Паводле канцэпцыі разьвіцьця аховы здароўя на 2003-2004 гады, не прадугледжваецца ўвядзеньня абавязковага мэдычнага страхаваньня. Прэзыдэнт Лукашэнка катэгарычна супраць радыкальных рэформаў у мэдыцыне, таксама ён выказаўся за найбольш эфэктыўную, на ягоную думку, колішнюю савецкую сыстэму. Праўда, недахопам савецкае сыстэмы кіраўнік краіны назваў тое, што тады не лічылі грошай. А сёньня такіх грошай краіна ня мае.

Насамрэч, ёсьць свая цана і ў так званай "бясплатнай мэдыцыны". Старшыня навуковага савета па падрыхтоўцы Нацыянальных справаздач аб чалавечым разьвіцьці, эканаміст Леанід Заіка лічыць, што бясплатная мэдыцына эфэктыўная толькі для жанчын. Пры агульным зьніжэньні працягласьці жыцьця, розьніца паміж скарачэньнем жыцьця жанчын і мужчын павялічылася зь 9 да 14 гадоў.

Пагаршэньне экалёгіі й мэдычнага абслугоўваньня нанесла ўдар у першую чаргу па здароўі мужчын. Будучыя пакаленьні, на думку эканаміста, праз 100 гадоў прыйдуць менавіта да такой высновы.

Мужчыны найменш адказныя за здароўе сярод сацыяльных груп. У іх у два разы больш высокая сьмяротнасьць ад новаўтварэньняў, чым у жанчын. Больш высокая сьмяротнасьць і ад хваробаў зьвязаных з кровазваротам.

Мэдыцына ў той форме, у якой яна разьвіваецца, разьлічаная на пэнсыянэраў, на людзей, якія клапоцяцца пра сваё здароўе. Апроч таго, тыя, хто вядзе здаровы лад жыцьця, плоцячы пры гэтым падаткі, фактычна бярэ на сябе цяжар фінансавай адказнасьці за тых, хто нядбайна ставіцца да здароўя. Паводле эканаміста, для бальшыні беларусаў здароўе ня стала эканамічнай катэгорыяй.

*Паводле www.svaboda.org*



# ВЫБИРАЕМ ШКОЛУ, ВЫБИРАЕМ САД

**1. Первое высшее образование входит в общий трудовой стаж?**

**2. Дополнительное образование входит в общий трудовой стаж?**

В соответствии со ст. 51 Закон Республики Беларусь от 17 апреля 1992 г. № 1596-XII «О пенсионном обеспечении» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 17, ст.275) (Регистрационный номер Национального реестра 2/333; дата включения в Национальный реестр 16 марта 2001 г.) в стаж работы засчитывается:

в) период обучения на дневном отделении в высших и средних специальных учебных заведениях, в училищах, школах и на курсах по подготовке кадров, повышению квалификации и переквалификации, в аспирантуре, клинической ординатуре, докторантуре.

**Является ли наличие прописки необходимым условием для того чтобы ребёнок ходил в детский сад или школу? В законе об образовании про прописку нет ни слова. Какие правовые акты есть по этому поводу? Каким образом разрешить данный вопрос в случае отказа принять ребёнка в детский сад или в школу?**

В Законе Республики Беларусь от 29 октября 1991 г. N 1202-XII «Об образовании» (статья 3) установлено, что:

Каждый гражданин Республики Беларусь имеет право на получение образования. Ограничения прав на получение образования могут устанавливаться только законом.

Гражданам Республики Беларусь гарантируется право на получение бесплатного общего среднего, профессионально-технического и на конкурсной основе бесплатного среднего специального и высшего образования в учреждениях образования.

Иностранные граждане и лица без гражданства, постоянно проживающие в Республике Беларусь, имеют равные с гражданами Республики Беларусь права на образование, если иное не определено законами и международными договорами Республики Беларусь.

Право на обучение и порядок обучения иных иностранных граждан устанавливаются актами законодательства Республики Беларусь.

А статья 7 определяет, что основное образование в Республике Беларусь включает следующие уровни:

дошкольное образование; общее базовое образование; общее среднее образование; профессионально-техническое образование; среднее специальное образование; высшее образование; послевузовское образование.

У адпаведнасці з Прыкладным палажэннем аб дзіцячай дашкольнай установе, зацверджаным Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь 28 чэрвеня 1993 г., N 203:

15. Дашкольная ўстанова камплектуецца дзецьмі яе заснавальнікаў (упраўленнем, аддзелам адукацыі або прадпрыемствам, установай, арганізацыяй, асобамі, у падпарадкаванні якіх яна знаходзіцца). Парадак камплектавання дашкольных устаноў і груп спецыяльнага прызначэння вызначаецца палажэннямі аб гэтых установах, якія зацверджаны Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Парадак уліку заяў, афармлення і выдачы пуцёвак вызначаецца заснавальнікамі дашкольных устаноў. Паміж дашкольнымі ўстановамі можа арганізоўвацца абмен месцамі.

16. У дзяржаўную дашкольную ўстанову ў першую чаргу прымаюцца дзеці працуючых адзінокіх бацькоў, маці-навучэнак, бацькоў-інвалідаў I і II групы; дзеці з мнагадзетных сем'яў; дзеці, якія знаходзяцца пад апекай, дзеці сляпых, глухіх бацькоў; дзеці пяцігадовага ўзросту, дзеці-блізняты, дзеці, бацькі якіх знаходзяцца на абавязковай службе ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь; дзеці грамадзян, якія праходзілі ваенную службу ці працавалі ў складзе савецкіх войск на тэрыторыі дзяржаў, у якіх вяліся баявыя дзеянні, а таксама дзеці асоб, на якіх распаўсюджваецца Закон Рэспублікі Беларусь «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС».

17. Залічэнне дзяцей у дашкольную ўстанову вядзецца загадчыкам гэтай установы па прад'яўленню наступных дакументаў: пуцёўкі, выдадзенай адпаведным заснавальнікам дашкольнай установы; заявы бацькоў або асоб, якія іх замяняюць; выпіскі з гісторыі развіцця дзіцяці з заключэннем аб стане яго здароўя; даведкі аб адсутнасці кантактаў з інфіцыраванымі хворымі і пасведчання аб нараджэнні дзіцяці. У дашкольную ўстанову (групу) спецыяльнага прызначэння дадаткова падаецца заключэнне псіхолага-медыка-педагагічнай кансультацыі.

Выключэнне дзяцей з дашкольнай установы вядзецца загадчыкам пры згодзе з яе заснавальнікам у наступных выпадках: па медыцынскаму залючэнню, якое забараняе знаходжанне дзіцяці ў гэтай дашкольнай установе па стану здароўя; ненаведванне дзецьмі дашкольнай установы звыш аднаго месяца без заявы бацькоў; у выпадку неаплаты за яго ўтрыманне на працягу двух тыдняў пасля ўстаноўленага тэрміну, а таксама невыканання бацькамі іншых дагаворных абавязацельстваў; па заяве бацькоў або асоб, якія іх замяняюць. Бацькам паведамляюць аб выключэнні дзіцяці за 7 дзён.

Забараняецца выключаць дзяцей з дашкольнай установы ў сувязі са змяненнем месца работы бацькоў.

За дзіцём захоўваецца месца ў дашкольнай установе ў выпадку яго хваробы, праходжання санаторна-курортнага лячэння, каранціну, хваробы або водпуску маці, чарговага водпуску бацькі (або асоб, якія замяняюць бацькоў), па заяве бацькоў, на перыяд аздараўлення дзіцяці тэрмінам да 90 дзён у летні перыяд.

18. У дзіцячыя яслі прымаюцца дзеці ва ўзросце ад 2 месяцаў да 3 гадоў; у дзіцячы сад - ад 3 да 7 гадоў; у яслі-сад - ад 1 да 7 гадоў (незалежна ад пачатковых тэрмінаў школьнага навучання па жаданню бацькоў або медыцынскаму заключэнню дзеці могуць знаходзіцца ў дашкольнай установе да 7 гадоў). Групы могуць камплектавацца па аднаўзроставаму прынцыпу або дзецьмі рознага ўзросту. У навучальна-выхаваўчай установе «Школа-дзіцячы сад» узроставы склад дзяцей у дашкольных групах вызначаецца саветам гэтай установы ў залежнасці ад колькасці груп і мясцовых умоў.

# Парадак і ўмовы атрымання крэдытаў на кватэры

Кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь згодна з главой 18 Банкаўскага кодэксу Рэспублікі Беларусь мае права ўзяць крэдіт, у тым ліку і на будаўніцтва кватэры ці дому, пры гэтым кожны банк уводзіць свае памеры крэдыту і працэнты па ім (напрыклад, на пачатку бягучага года грамадзянам, якія не маюць ніякіх ільгот, прыдзецца выплочваць 14% гадавых па крэдытах ад "Беларусбанка"), а таксама замацоўвае перавод на банк прававога тытулу на такую маёмасць у якасці забеспячэння выканання абавязку (арт. 150 БК) [3]. Пры гэтым у дамове павінен уводзіцца тэрмін для выкупа маёмасці крэдытаатрымальнікам шляхам пагашэння крэдыту; банк не мае магчымасці адцураць такую маёмасць да яго заканчэння. Акрамя гэтага часцей за ўсе ў крэдытнай дамове замацоўваецца немагчымасць датэрміновага пагашэння ўсёй сумы крэдыту.

Кватэры можна набываць і праз атрыманне ільготнага крэдыту, якія выдаюцца ААТ "Зберагальны банк "Беларусбанк" на будаўніцтва грамадзянамі жылых памяшканняў у складзе жыллёва-камунальных кааператываў, калектываў індывідуальных забудоўнікаў і ў парадку долевага ўдзелу ў жыллёвым будаўніцтве.

Парадак атрымання ільготнага крэдыту вызначаецца Палажэннем "Аб парадку і ўмовах прадстаўлення ільготнага крэдыту на будаўніцтва грамадзянамі жылых памяшканняў у складзе жыллёва-камунаьных кааператываў, калектываў індывідуальных забудоўнікаў і ў парадку долевага ўдзелу ў жыллёвым будаўніцтве", якое было зацверджана Пастановай Рады Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 4 сакавіка 1998 года №351 [12].

Згодна з гэтым паляжэннем ільготныя крэдыты выдаюцца грамадзянам Рэспублікі Беларусь, замежным грамадзянам і апатрыдам, якія стала пражываюць на тэрыторыі краіны і знаходзяцца на ўліку патрабуючых паляпшэння жыллёвых умоў, з выкананнем прынцыпа аднаразовасці выкарыстання імі права на атрыманне такога крэдыту на мэты, пазначаныя вышэй. Пры гэтым права на атрыманне ільготнага крэдыту маюць грамадзяне, сярэднямесячны сукупны даход сям'і якіх з улікам маёмаснага становішча не перавышае крайняга ўзроўню, які вызначаецца Міністэрствам працы разам з Міністэрствам архітэктуры і будаўніцтва, Міністэрствам фінансаў і Міністэрствам статыстыкі і аналізу. Ільготныя крэдыты выдаюцца па спецыяльных спісах, якія складаюць для банка і зацверджваюць аблвыканкамы і Менскі гарвыканкам згодна з часам прыняцця на ўлік патрабуючых паляпшэння жыллёвых умоў грамадзян. У першую чаргу і па-за чаргі ў дадзеныя спісы ўключаюцца грамадзяне, якія маюць адпаведныя ільготы на атрыманне жылых памяшканняў у карыстанне па дамове найму ў дамах дзяржаўнага і грамадскага жыллёвага фонду, пры ўступленні ў жыллёва-будаўнічыя кааператывы, а таксама тыя грамадзяне, якія пражываюць ў жылых памяшканнях прызнаных у адпаведным парадку непрыдатнымі для пражывання.

Важна памятаць, што ільготны крэдыт выдаецца толькі на мэты, якія акрэслены крэдытнай дамовай (арт. 146 Банкаўскага кодэксу Рэспублікі Беларусь). За нямэтавае выкарыстанне крэдыту крэдытная дамова можа прадугледжваць спецыяльныя формы адказнасці [3].

Ільготныя крэдыты могуць атрымаць чальцы жыллёва-будаўнічых кааператываў, калектываў індывідуальных забудоўнікаў і грамадзяне, якія ажыццяўляюць будаўніцтва кватэраў у парадку долевага будаўніцтва. Варта адзначыць, што жыллёвае заканадаўства дае права на сумеснае выкарыстанне ільготнага крэдыту і аднаразовай безвыплатнай субсідыі на будаўніцтва ці набыццё жылых памяшканняў. Пункт 1.11 Указу прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 14 красавіка 2000 № 185 прадугледжвае пералік грамадзян, якія такім правам надзяляюцца [15]. Неабходна засяродзіць увагу на адной з катэгорый грамадзян, якія пералічаны ў гэтым пункце. Гэта маладыя сем'і, пад якімі разумеюцца сем'і, у якіх муж ці жонка знаходзіцца ва ўзросце да 31 года на момант пастаноўкі на ўлік патрабуючых паляпшэння жыллёвых умоў.

29 снежня 2004 года Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь падпісаў Указ № 625, які прадугледжвае, што памер ільготнага крэдыту можа складаць да 90% ад кошту будаўніцтва жылля, зыходзячы з разліку 20 квадратных метраў на чалавека. Такія крэдыты будуць выдавацца тэрмінам на 20 год пад 5 % гадавых (замест 10 %, прадугледжаных у Палажэнні). Для шматдзетных сем'яў і жыхароў малых гарадскіх пасяленняў з насельніцтвам да 20 тысяч чалавек прадугледжваецца больш ільготны парадак і ўмовы крэдытавання: захаванне памеру ільготнага крэдыту да 95 % кошту жылога памяшкання, тэрмінам на 40 год і памяншэнне платы за карыстанне крэдытам з 5 % да 3 % гадавых.[14]

Канчатковы памер ільготнага крэдыту вызначаецца пры заключэнні дамовы з грамадзянінам, зыходзячы з яго плацёжаздольнасці і з улікам фактычнага кошту будаўніцтва жылога памяшкання, пры гэтым грамадзянін павінен прадставіць дакументы, якія пацвярждаюць іх плацёжаздольнасць і маёмаснае становішча, кошт будаўніцтва пэўнага жыллёвага памяшкання, а таксама іншыя дакументы, неабходныя для заключэння дамовы аб ільготным крэдытаванні.

Памер уласных сродкаў грамадзян, якія падлягаюць накіраванню на фінансаванне жыллёвага будаўніцтва вызначаецца як розніца паміж фактычным коштам будаўніцтва і пэўнай сумай ільготнага крэдыту згодна з крэдытнай дамовай. Уласныя грашовыя сродкі, а таксама пагашэнне запазычаннасці по ільготным крэдыце і выплата працэнтаў за карыстанне ім ажыццяўляецца на разліковы рахунак жыллёва-будаўнічага кааператыву, калектыву індывідуальных забудоўнікаў, генеральнага забудоўніка пры долевым будаўніцтве ў адпаведнай установе банка. Пры гэтым уласныя грашовыя сродкі ўносяцца да пачатку крэдытавання ці часткамі на працягу ўсяго перыяда крэдытавання ў спецыяльна акрэсленыя тэрміны, а выплаты па крэдытах і працэнты ажыццяўляюцца пачынаючы з наступнага месяца пасля ўвядзення дома ва эксплуатацыю роўнымі долямі на працягу ўсяго перыяда пагашэння крэдыта. На працягу гэтага часу адзіным уласнікам маёмасці з'яўляецца банк - ён мае ўсе правы і выконвае ўсе абавязкі уласніка маёмасці.

Калі пагашэнне крэдыту не адбываецца ўвогуле ці часткова, банк, які выдаў крэдыт, згодна з крэдытнай дамовай робіць захады па атрыманні працэнтаў, а калі гэта немагчыма - здзяйснае высяленне крэдытаатрымальніка з жыллёвых памяшканняў.

Пасля пагашэння крэдыту і выплаты ўсіх працэнтаў па ім з крэдытаатрымальніка здымаюцца ўсе яго абавязкі пераз банкам, і ён становіцца адзіным і паўнапраўным уласнікам нерухомай маёмасці.

# ВЫПРАБАВАЛЬНЫ ТЭРМІН

## *Для работніка ці для наймальніка?*

**Шмат у якіх кампаніях супрацоўнік, перад тым як яго возьмуць (ці то ня возьмуць) у штат, павінен прайсьці выпрабавальны тэрмін. І гэта натуральна, бо кіраўнік, калі прымае новага супрацоўніка ў штат, можна сказаць, бярэ ката ў мяху. Згадзіцеся, нават дасьведчаны сьпэцыяліст па кадрах ня здолее адразу вызначыць, наколькі падыходзіць для арганізацыі той ці іншы кандыдат.**

Адным з спосабаў, які дазваляе наймальніку засьцерагчыся ад некампэтэнтных ці недобрасумленных работнікаў, зьяўляецца магчымасьць устанавіць выпрабавальны тэрмін пры прыёме на працу навічка. У сваю чаргу і работнік можа скасаваць працоўную дамову, калі падчас выпрабавальнага тэрміну высьвятліцца, што праца яму не падыходзіць. Бо работнік таксама мае права выпрабаваць наймальніка.

Вырашаючы пытаньне аб увядзеньні выпрабавальнага тэрміну, наймальнік павінен вырашыць узьніклую дылему, бо калі выбар будзе ўсё ж такі на карысьць выпрабавальнага тэрміну, неабходна памятаць: звольніць работніка па выніках будзе досыць цяжка.

Каб пазьбегнуць магчымых канфліктавых сытуацыяў, памятайма: пры заключэньні бакамі працоўнай дамовы выпрабавальны тэрмін павінен ня толькі адпавядаць заканадаўству (гэта ў першую чаргу), але і быць афармленным належным чынам. Пры чым, гэтыя дзьве акалічнасьці павінны прысутнічаць у сукупнасьці.

У адпаведнасьці з гэтым, уводзячычы выпрабавальны тэрмін, наймальнікам і работнікам неабходна ведаць і правільна ўжываць нормы заканадаўства, якія рэглямэнтуюць выпрабавальны тэрмін пры прыёме на працу.

***Правілы выпрабаваньня.***

У адпаведнасьці з ч. 1 арт. 28 Працоўнага кодэксу Рэспублікі Беларусь (далей – ПК) умовы працоўнае дамовы аб увядзеньні работніку папярэдняга выпрабаваньня мае мэтай даць мажлівасьць спраўдзіць адпадпаведнасьць работніка даручаемай яму працы.

Пры чым, ва ўмовах існага рынка працы і растучых патрабаваньняў да работніка, увядзеньне выпрабавальнага тэрміну, як правіла, не залежыць ні ад кваліфікацыі работніка і ад яго прафэсыйнага досьведу. Мэта выпрабаваньня – вызначыць прыдатнасьць новага работніка да працы. Бо наймальнік павінен быць упэўненым, што прымае на працу сапраўды добрага спэцыяліста.

Наяўнасьць у работніка дакумэнтаў аб атрыманай адукацыі ці прафэсыйнай падрыхтоўцы, на жаль, не заўсёды адпавядае рэальнай кваліфікацыі дадзенага работніка, таму наймальнік зацікаўлены ў папярэднім спраўджаньні здольнасьцяў кандыдата.

Пры ўвядзеньні папярэдняга выпрабаваньня размова ідзе менавіта пра праверку службовых якасьцяў работніка. Асобныя асаблівасьці характару чалавека, наўпрост не зьвязаныя з выкананьнем ім канкрэтных прафэсійных абавязкаў, ня могуць падпадаць пад выпрабаваньне. На прыклад, калі ўводзіцца папярэдняе выпрабаваньне токару, наймальнік ня мае права ставіць прадметам выпрабаваньня схільнасьць токара да ўжываньня сьпіртовых напояў, паленьня, балбатлівасьці, канфліктнасьць у калектыве, брыдкай лаянкі ды іншыя асаблівасьці характару. Яны не дапасуюцца да прадмета папярэдняга выпрабаваньня дадзенага работніка.

Такім чынам, калі наймальнік вырашыў улучыць у працоўную дамову ўмовы аб папярэднім выпрабаваньні, то ён абавязкова павінен вызначыць прадмет выпрабаваньня.

Як вядома, абавязкі работніка вызначаюцца ці то ў працоўнай дамове, ці то ў службовай інструкцыі. Пры гэтым работнік павінен быць азнаёмлены з інструкцыяў і пацьвердзіць сваю згоду подпісам. Гэта асабліва істотна пры звальненьні работніка, які не вытрымаў выпрабаваньня, калі факт азнаямленьня з працоўнымі абавязкамі будзе мець вялікае значэньне для пацьверджаньня яго неадпавяданьня даручанай працы.

У той жа час неабходна ўлічваць і той факт, што ва ўмовах рынкавай экANОміі зьявіліся такія пасады, як мэнэджэр, рыелтар, дыстрыбьютар і г.д.; наймальнік жа з улікам гаспадарчых задачаў арганізацыі ўкладае свой сэнс у найменьне дадзеных пасадаў.

Для дакладнага вызначэньня прадмета выпрабаваньня наймальнік павінен акрэсьлена ведаць тарыфна-кваліфікацыйныя характарыстыкі прафэсіяў рабочых і кваліфікацыйныя характарыстыкі пасадаў служачых. Дзеля гэтага й існуе сістэма тарыфікацыі, з дапамогай якой падзел працы ажыцьцяўляецца ня толькі па відах працы, але і па ўзроўні кваліфікацыі. Падставовым дакумэнтам, на падставе якога засноўваецца «гіерархія» майстэрства рабочых, зьяўляецца Адзіны тарыфна-кваліфікацыйны даведнік працаў і прафэсіяў рабочых. Што датычыцца катэгорыі работнікаў, якая называецца «служачыя», то неабходна кіравацца кваліфікацыйным даведнікам пасадаў служачых.

Так, пры заключэньні працоўнае дамовы бакамі можа быць агаворана выпрабаваньне з мэтай спраўджаньня факта адпавяданьня работніка даручаемай яму працы: узроўня тэарытычных і практычных ведаў і ўмельства па адпаведнай прафэсіі, спэцыяльнасьці, кваліфікацыі; здольнасьць працы з кліентамі; ступень валоданьня замежнымі мовамі ды іншых прафэсійных ведаў і навыкаў, неабходных для выкананьня абумоўленай дамовай працоўнай функцыі.

Такім чынам, выпрабаваньне пры прыёме на працу дазваляе наймальніку спраўдзіць здольнасьць работніка выконваць даручаную яму працу ды ягонае стаўленьне да працоўных абавязкаў, таму ўлучэньне ўмовы пра выпрабавальны тэрмін часьцей за ўсё зьяўляецца абгрунтаваным. Пытаньне пра ўлучэньне ўмовы пра ўвядзеньне выпрабавальнага тэрміну павінна вырашацца наймальнікам індывідуальна з кожным работнікам на этапе заключэньня працоўнае дамовы.

Аднак менавіта на дадзенам этапе заключэньня працоўнае дамовы акурат і адбываецца найбольш распаўсюджаная памылка: наймальнік самастойна, у аднабаковым парадку прызначае новаму работніку выпрабаваньне ды вызначае ягоную працягласьць. Разам з тым ПК уводзіць роўнасьць бакоў працоўнае дамовы, у адпаведнасьці з чым умова пра выпрабавальны тэрмін можа быць улучана ў працоўную

*Пачатак. Працяг на стар. 7*

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 6*

дамову толькі пры наяўнасьці пагадненьня бакоў. Як пазначана ў арт. 19 ПК, зьмест ды ўмовы працоўнае дамовы вызначаюцца пагадненьнем бакоў. Калі ж кандыдат выступае супраць увядзеньня дадзенае ўмовы, то ні пра якое выпрабаваньне гаворка весьціся ня можа. Акрамя таго, у адпаведнасьці з арт. 19 ПК увядзеньне работніку выпрабавальнага тэрміну адносіцца да ліку дадатковых умоваў працоўнае дамовы, адпаведна, бакі наагул могуць яго не абмяркоўваць. Аднак у тым выпадку, калі бакі ўсё ж вырашылі ўлучыць дадзеную ўмову ў працоўную дамову, яна зьяўляецца абавязковай для выкананьня абодвума бакамі.

Вось жа, выпрабаваньне з мэтай спраўджаньня адпаведнасьці работніка даручаемай яму працы можа быць уведзена, па-першае, толькі пры заключэньні працоўнае дамовы, па-другое, толькі па пагадненьню яе бакоў.

Акрамя таго, ня варта забывацца на такі істотны момант, як пазначэньне ўмовы пра ўвядзеньне выпрабавальнага тэрміну ў працоўнай дамове. Калі ўмова пра выпрабавальны тэрмін не была ўзгадана ў тэксьце працоўнае дамовы, работнік лічыцца прынятым на працу без выпрабаваньня.

У дадзенай сытуацыі слушна ўзгадаць пра тое, што да ўвядзеньня ў дзеяньне ПК арт. 21 КзабП РБ уводзіў правіла, у адпаведнасьці зь якім умова пра выпрабаваньне мусіла быць пазначана ў загадзе (распараджэньні) аб прыёме на працу. Зараз запіс пра выпрабавальны тэрмін у загадзе (распараджэньні) аб прыёме на працу выдаецца на падставе ўжо заключанае працоўнае дамовы й яго зьмест мусіць у дакладнасьці адпавядаць умовам працоўнае дамовы.

Аднак на практыцы нярэдка ўзьнікаюць сытуацыі, калі работнікі фактычна дапускаюцца да працы зь ведама наймальніка, але без належнага афармленьня працоўнае дамовы й загаду з пазначэньнем умоваў дамовы.

**Прыклад 1**

Сп-ня Г. была запрошана на працу ў ТАА "П..." у якасьці мэнэджэркі. Кіраўнік, жадаючы спраўдзіць здольнасьць сп-ні Г. працаваць з кліентамі, дапусьціў яе да працы без афармленьня працоўнае дамовы й без выданьня загаду. Цераз тое, што сп-ня Г. не валодала належнымі бізнэсоўскімі якасьцямі, праз месяц кіраўнік паведаміў ёй, што яна выпрабаваньня ня вытрымала й на працу прынята ня будзе. Суд аднавіў сп-ню Г. на працы, бо ў яе ўзьнiклі працоўныя стасункі з наймальнікам у выніку фактычнага дапушчэньня яе да працы (ч. 2 арт. 25 ПК). Пры гэтым адсутнасьць працоўнае дамовы ды, адпаведна, умовы ў ёй пра выпрабаваньне азначае, што сп-ня Г. была прынята на працу без выпрабаваньня (ч. 4 арт. 28 ПК).

Яшчэ адной даволі распаўсюджанай памылкай зьяўляецца тое, што пры афармленьні на працу ў тэкст працоўнае дамовы ня ўносіцца пункт пра выпрабавальны тэрмін. Ён "усплывае" пазьней, пры выданьні адпаведанага загаду, што цалкам недапушчальна. У выпадку праверкі інспэктар, супаставіўшы асобнік працоўнае дамовы з тэкстам загаду, абвесьціць гэта грубым парушэньнем працоўнага заканадаўства. У выпадку ж узьнікненьня працоўнае спрэчкі суд палічыць умову пра выпрабавальны тэрмін несапраўднай. Бо ў заканадаўстве наўпрост пазначана, што пры ўвядзеньні выпрабавальнага тэрміну неабходна жаданьне абодвух бакоў – як наймальніка, так і работніка. А дакумэнтам, што адлюстроўвае ўзаемнае волевыяўленьне, ёсьць акурат працоўная дамова, а не загад.

**Прыклад 2**

Сп-ня М. была прынятая на працу поварам з 02.02.2004 г. Пры заключэньні працоўнае дамовы ачольнік аддзела кадраў папярэдзіў яе, што ў мэтах спраўджаньня яе кваліфікацыі ёй будзе ўведзена выпрабаваньне. Сп-ня М. пагадзілася.

Прыём сп-ні М. на працу быў аформлены загадам наступнага зьместу: "Маркаву Марыну Анатольеўну прыняць на працу з 2 студзеня 2004 г. у цэх №2 поварам 3-га разраду з паработнай аплатай працы з выпрабавальным тэрмінам у 2 месяцы – з 2 студзеня па 1 сакавіка 2004 г." 3 студзеня ачольнік аддзелу кадраў азнаёміў М. з загадам пад роспіс.

У пэрыяд выпрабаваньня сп-ня М. працавала кепска: 2 разы спазьнялася на працу, некалькі разоў не пасьпявала выконваць дзённую норму выпрацоўкі. Дадзеныя факты былі адлюстраваны ў актах, складзеных тэхнолягам ды майстрам. Цераз тое, што вынікі працы выявіліся нездавальняючымі, дырэктар прыняў рашэньне скасаваць з сп-няй М. працоўную дамову.

27 лютага 2004 г. ачольнік цэха №2 уручыў сп-не М. пісьмовае папярэджаньне пра тое, што яна не прайшла выпрабаваньне й будзе звольнена з 1 сакавіка.

1 сакавіка дырэктар падпісаў загад аб скасаваньні з сп-няй М. працоўнае дамовы на падставе арт. 29 ПК.

Спадарыня М. не пагадзілася з загадам ды зьвярнулася ў суд з позывам пра аднаўленьне на працы. У позыўным лісьце яна прывяла такое абгрунтаваньне: "Працоўная дамова са мной была падпісана праз 3 дні пасля таго, як я была азнаёмлена з загадам пра прыём на працу. Умовы пра ўвядзеньне выпрабаваньня ў працоўнай дамове няма. Мяркуючы, што дырэктар перадумаў і вырашыў ня ўводзіць мне выпрабаваньня, я з гэтым пагадзілася ды пацьвердзіла сваю згоду, падпісаўшы працоўную дамову".

Суд, прызнаўшы меркаваньне сп-ні М. абгрунтаваным, прыйшоў да высновы, што яна была прынята без выпрабаваньня, ды аднавіў яе на працы.

У дадзеным выпадку, афармляя прыём на працу, адміністрацыя дапусьціла памылку, парушыўшы патрабаваньне арт. 28 ПК. Наймальніку варта было ўлучыць умову пра папярэдняе выпрабаваньне ў працоўную дамову.

Вось жа, мы можам канстатаваць, што, акрамя пазначэньня ў працоўнай дамове ўвядзеньня выпрабаваньня, такое патрабаваньне датычыцца й нарматыўных актаў наймальніка аб прыёме на працу (загаду). То бок загад павінен прадубляваць адну з умоваў працоўнае дамовы з работнікам аб увядзеньні для яго выпрабаваньня. У тых выпадках, калі ўмова пра ўвядзеньне выпрабаваньня не было адлюстравана ў тэксьце працоўнае дамовы, але было пазначана ў загадзе аб прыёме на працу, работнік уважаецца прынятым без выпрабаваньня, бо ў такім разе ня выканана патрабаваньне закона пра дасягненьне паміж наймальнікам і работнікам пагадненьня аб увядзеньні выпрабаваньня. Наадварот, пры адсутнасьці ўмовы аб увядзеньні работніку выпрабаваньня ў загадзе наймальніка аб прыёме на працу, але пры наяўнасьці гэтага ў працоўнай дамове работнік уважаецца прынятым з выпрабавальным тэрмінам, бо загад зьяўляецца вытворным ад умоваў, вызначаных у працоўнай дамове.

# БЕЛОРУСАМ «Виагра» не нужна!?




**В середине мая в белорусские аптеки поступит отечественный аналог «Виагры» под названием «Ювена». Первая тысяча упаковок этого препарата, предназначенного для лечения мужской эректильной дисфункции, уже выпущена Республиканским унитарным предприятием «Борисовский завод медицинских препаратов».**

Как сообщила *«Белорусским новостям»* специалист-провизор сектора маркетинга предприятия **Елена Вальковская**, *«состав «Ювены», как и «Виагры», имеет одинаковое действующее вещество — силденафил. Терапевтический эффект обоих препаратов равноценен, а вот стоимость «Ювены» будет в 2-3 раза ниже «Виагры».*

Белорусские аптеки, кроме «Виагры», предлагают мужчинам, желающим стать более мужественными, белорусскую «Потенциагру» и украинский препарат «Потенциале». Чем «Ювена» отличается от них?

По словам Елены Вальковской, *«если говорить о качестве и эффекте, то ничем. А по цене наш препарат будет дешевле «Потенциагры» и «Потенциале» на 20-30 процентов».*

Как выяснил корреспондент *«Белорусских новостей»*, таблетка «Виагры» стоит сегодня 33 600 рублей, 4 таблетки — 122 900 рублей. За «Потенциагру» необходимо заплатить 15 тысяч 600 рублей, а за «Потенциале» — 24 тысячи 300 рублей. Таким образом, можно предположить, что стоимость «Вечной молодости» (так переводится с греческого языка «Ювена») составит приблизительно 13 тысяч рублей.

Все вышеперечисленные препараты должны отпускаться аптеками только по рецептам, однако на практике их можно приобрести абсолютно свободно, были бы деньги да желание. Мужчинам, не имеющим проблем с потенцией, но желающим продемонстрировать своим возлюбленным мужскую суперсилу, врачи экспериментировать с чудо-таблетками не рекомендуют.

Как и большинство других лекарств, они имеют побочные эффекты. Наиболее частыми являются головная боль и прилив крови к лицу. Реже встречаются нарушения пищеварения, головокружение, заложенность носа и изменение зрения (изменение цвета объектов, повышенная яркость света или затуманивание зрения). Возможны и другие неприятности.

Пример из жизни. Один молодой парень, выпив сначала водки, а потом приняв «Виагру», замучил себя и подружку собственной эрекцией. Оргазма достичь не получилось, секса больше не хотелось, а орган возбужденный всю ночь заснуть не давал. Водой холодной обливался — не помогало. Утром только отпустило. С тех пор он только на свои силы рассчитывает и с собственным естеством в интимных делах без лекарств договаривается.

***naviny.by***

**Заснавальнік:** *Грамадзянская ініцыятыва «Рэсурсовы цэнтар "Барміца"»*
**Адрас для допісаў:** *211800 Глыбокае, а/с №2*
**e-mail:** *barmica@tut.by*
**http://www.barmica.org**
**Наклад:** *299 паасобнікаў*

**Распаўсюджваецца БЯСПЛАТНА на правах унутранай дакументацыі грамадскіх арганізацый, якія спрычыніліся ды выдання бюлетэня.**
**Пад час укладання захоўваецца мова і правапіс арыгіналу.**
**Надрукавана на абсталяванні сяброў**